* * *

Чалавек, сваёй нацыі сын,
Будзь,як сын,яе годнасці варты.
І душы яе, і красы
Будзь ратоўцам і вернаю вартай.

Хай не сніцца табе, чалавек,
Грош жабрачы ці злот парабковы.
Не давай аніколі ты ў здзек
Ані маці сваёй, ані мовы.

Час сяўбы,
Час вырошчваць сады,
Дараваны нам Богам і сонцам.
Цяжкі кубак айчыннай бяды
Выпіт намі па самае донца.

Нас мяшалі з гразёй і крывёй,
А мы з чыстымі выйшлі вачыма.
Бацькам Бог для Айчыны маёй,
Не дай Бог для Айчыны айчыма.

# НАДЗЕЯ

У гэтым жыцці я не ўсё разумею.
О, што я рабіў бы, калі б не надзея.
Жыццё па калдобах такіх крутаносіць,
Аж молішся часам і плачашся:
— Досыць!

Удар,
А ўжо й новы там хтосьці рыхтуе,
Ды зноўку прыходзіць надзея,
ратуе.
Ратунне мая, дарагая надзея,
З табой не прапашчы, напэўна, нідзе я.
Дабрэе мой звер, чалавек нелюдзее,
Ды застаецца яшчэ надзея.

Мялее мой Нёман, і Сож твой мялее,
Ды застаецца яшчэ надзея.

Згарэла дача сям'і Дземянцея,
Ды засталася яшчэ надзея.

Дзе нашы спатканні?
Не любы табе я,
Ды засталася яшчэ надзея.
Хоць грош мой збяднеў, пахудзела кішэня,
А трасцу, з бядою мяне не пажэняць.
Не буду галодным, не пахудзею —
Вязе грузавік мне замежны надзею.
Аслеп я, ці што, ў гэтай страшнае дзеі —
Навобмацкі йду за табою, надзея?!

## ПРОСТАЯ МОВА,
## АБО ЭКЗАМЕН
## ПА МОВАЗНАЎСТВУ

— Хто ты ёсць? —
І пытанне на вуснах шыпіць,
Як укус.
— Беларус!
— ?
— Так і ёсць, беларус!
Мой найцяжкі экзамен
Прымае сягоння НКУС.
— Памыліўся, шаноўны, ты ў гэтай графе,—
Вусны крывяцца
Акантоўкаю галіфэ —
Гэта простая мова.
І пісаць усё трэба ў двукоссях.

Вось як?..
Я стаю і маўчу,
Абліваюся потам.
Зразумею ўсё потым,
Калі возьмуць мой лёс
У двукоссе калючага дроту.

Мая простая мова,
Лёс твой матчыным словам галосіць,
Як цябе два арлы небяспечна двукосяць.
Два арлы, ды з адной, як паглядзіш, пароды.
Разам з простаю мовай
Двукосяць народы.

Мая простая мова!
Я і сам прастаган,
Жыў у простай хацінцы.

Як экзамен той здаў,
На зямлі сваёй роднай
Стаўся чужынцам.
Плача, плача мой сказ,
І рыбінай б'ецца аб слова чужое.
З крыўды цяжкіх двукоссяў
Не выйду няўжо я?

Мая простая мова!
Я нарэшце дазвол атрымаў на цябе,
А разам з дазволам і ўмову:
— Што ж, браток, гавары,
Не пярэчым мы болей,
Гавары... сам з сабою.

## УРАГАН

Вы ціха спалі, з выгадай,
Але прыйшла чарга.
Вас проста з ложкаў выкінуў
Грымотны ураган.

Пакуль крычалі дружнае
«Няхай жыве!», «Ура!»,
Ён вырастаў заслужана
З якогась пухіра.

На гульбішчах абцасы —
Я заскакаў да ран.
«У-р-р-а!» — я грымнуў басам,
А выйшла — «У-р-раган!»

Як абухом, ён з маху
Мястэчкі аглушыў.
Зрываў з дамоў ён дахі,
З галоў — капелюшы.

Ён пушчу, як сякераю,
Па корані ссякаў
І падсякаў імперыю
Да верхняга сука.

Ён за турмою колішняй
Такі набраў разгон,
Аж барвяны аколышак
Хапаўся за пагон.

Трымцела ўсё і вохкала
У хатах і дварах.

Той ураган эпоху ўсю
На мужнасць вывяраў.

Хоць мог, не стаўся яваю
Мой ураджайны год.
Ляцела наша яблыня
Карэннямі на ўсход.

Над роднай баравінаю
У змушаным вітку
Жагналася галінаю
З пчалою на лістку.

Цягнула неба волакам,
І размываўся дол.
Над ёй у пары з воблакам
Кружыў які́сь анёл.

Пытаўся я ў анёла,
— А ці табе вясёла?
Анёл крычаў вачыма:
— Мне гэтак, як Айчыне!

А той шаленец недзе
Адгрукатаў і знік.
Але няма пад небам
І сёння цішыні.

Хоць звыкла ўсё нібыта,
Ды прытаміўся век.
І яблыні адбітак
На воблаку плыве.

## ПЕСІМІСТЫЧНАЕ

Мой дом стары,
Яму й не снілася,
Што будуць так яго ламаць.
Перабудоўшчыкі стаміліся,
У ногі Праўдзе пакланіліся,
Зноў трэба перабедаваць.

Не плешчацца зусім у ладачкі —
Хлусні адпеніўся фантан.
Пустэльны зірк палічак лавачных
З пустэчай згодны жывата.

Гарчыць, гарчыць жуда айчынная
І горкі скваркі роднай грам.
Ад бруду родны храм ачысціўшы,
Мы ўсё павымяталі з крам.

Іконы не з нябёс з'яўляюцца,
Іх з цёмных спратаў дастаюць.
І нават права дазваляецца
На мову родную сваю.

Прысела старасць зноў на прызбачку,
Кійком намацала зямлю.
З якім салёна-горкім прысмакам
Ты наша вечнае — «Цярплю».

Згубіў я вас, перабудоўшчыкі,
Наіўцы,
Лёсавыратоўшчыкі.
І сам прараб перабудовы,
Спалоханы, падаўся ў схованы.

# ПРА ГУЛЬНІ

Была гульня такая:
«Ты ўзбярыся на сасну,
А я цябе падсаджу...»
Ды не бойся.
Лёгкі ж ты,
Рукі й ногі з легкаты.

На сасну дык на сасну,
Можа, ў неба зазірну.
І папоўз.
Вышэй, вышэй.
Б'юць галіны між вушэй.
Крона круціцца змяёй,
Як з крыві кара на ёй.
А над кронай
кружыць з крыкам
Нейкі злосны птах.
Я рукамі
Ухапіўся за свой страх.
Ну а ўнізе чую рогат,
Як праклён:
— Гэй, варона,
Добра там, каля варон?
Рагатаў,
Ажно хапаўся за бакі,
А пасля ссякаць пачаў яшчэ сукі.
Падсадзіў, эх, падсадзіў.
Як у клетку пасадзіў.
Была гульня й такая:
— Ты старайся,
А я цябе пасаджу...

Чую стогны я марознае тайгі,
Пад дыханне б'юць кагосьці батагі,
Ломіць сцены кашаль горкі і сухі.
Чую й рогат.
Нехта зноў сячэ сукі.
Што ж, пагодзімся,
На гэтае зямлі
Гульні розныя былі.
...І ёсць.

## ГАРОДНЯ. МЫТНЯ. 1991

Два вырai развiнаюць
Хвастоўе стракатай чаргі.
Адзін з іх вымольвае раю,
Просіцца ў пекла другі.

Тут нельга, а там усё можна.
Гарэлка і лаянка спрэс.
Абкаканы лес прыдарожны,
І споены чаркаю лес.

Абмацаюць кожны скрутак,
Прасвецяць і валасок.
Мытня на трое сутак
Спакой забярэ і сон.

Марудная ў госці дарога —
Па два бакі ад парога.

Не дзеліцца, не спачувае,
Дзяржаўны парог — не пірог.
Маліся, душа качавая,
А можа, паможа Бог.

Ад Бога ж,
хоць сэрца ён мае,
Дарэмна спагады чакаць.
Ты ж Бога не ў сэрцы хаваеш,
А ў спраце легкавіка.

Ты сэрца яго разам з рамай
З пушчанскай царквы выкрадаў.

Ты будзеш цяпер пакараны,
Не Бога, цябе мне шкада.

Круціцца ў мытні трывожна
Вужам чарнявы вус.
Са шчыліны моліцца кожнай
Айчынны спалоханы груз.

Ад праса да чорта самога —
Усё праглыне той кірмаш.
У спраце, там, страшна Богу
За гэты нябоскі багаж.

Не думай зусім спавядацца
Вусатаму жартаўніку.
Ты ж будзеш назад вяртацца
У модным лапсардаку.

Дык лепей не кідайся ў вочы
І лішнія словы хавай.
Спадарку словаахвочы,
Паехаў, паехаў!..
Давай!..

Вязуць, хто купоны, хто клункі,
Хто модных брашурынак стос.
А я — свае даўнія думкі
Пра наш незайздросны лёс.

Густая чарга качавая
Цячэ страхатлівай ракой.
...На думкі, што ў сэрцы хаваў я,—
Той мытнік махнуў рукой.

## ДЭМАНСТРАЦЫЯ

Грымеў аркестр.
Парадна медзь блішчэла.
Хоць медзь яшчэ і можна зразумець,
А як жа зразумець цябе, знямелы
Мой чалавек,
што падпяваў пад медзь?
Хлусня крычала з лозунгаў штосілы,
Яна лілася чырванню,
як кроў.
У тым натоўпе цесным
і настылым
І мой святочны прытанцоўваў крок.
Я даганяў рабочую калону.
Цяжар... Ён што для спрацаваных рук?!
Ды як нясеш ты ідалаў натхнёных,
Цяжар той мусіць важыць утраёна.
Не разумеў я гэтага, зялёны.
Ды тут мяне спыніў адзін дзяцюк.
Ён на маё плячо паклаў дзяржальна
І твар скрывіў свой, сумны ад нуды:
— На патрымай, браток,
партрэт дзяржаўны.
Мне збегаць трэба.
Ведаеш куды...

І ён пабег.
Адбегшы, засмяяўся:
— Нясі, нясі, як за дзяржальна ўзяўся.

Пад выгукі бляшаныя «У-р-ра!»
Я сумна нёс партрэт правадыра.

Быў кол сыры, а сам партрэт цяжкі,
І нас удвух з правадыром хістала.
Адзервянелі дзве мае рукі —
Цяжар такі!
І тут калона новая дагнала.
«На патрымай!» — кагось я папрасіў.
Даруй мне, правадыр,
хлусіць не ўмею.
Той, хто цябе на лацканах насіў,
Цяжар святочны мой не зразумее.
Пад лозунгі,
і тупат,
і «ура»
Я не данёс тады правадыра.
Хай там ён, на тым свеце,
не злуецца.
Я ў сэрцы Бога нёс тады якраз,
Мне й сёння з Богам хораша ідзецца.

# НЕАФІЦЫЙНАЯ ЧАСТКА

У афіцыйнай частцы
Ад слоў аж гула галава.
Кожны хоць крыху начальствам
На ёй сябе адчуваў.

Прывыклі азадкі да седзіва,
Дый крэслы — падушкам радня.
Хоць да каго прысуседзішся,
Каб сон-баламут не даняў.

Думкі пра дом, пра каханку,
І ў жываце бурчыць.
І смага, праклятая, зранку.
Каб горла хоць чым прамачыць.

Хаваўся хтось за трыбуну,
А нехта — за ўласны жывот.
У шклянцы ўскіпала бура.
Нішто сабе слоўны ўмалот.
У афіцыйнай частцы,
У афіцыйнай частцы,
Хапала ўсялякай трасцы.

А ў частцы неафіцыйнай —
Куды весялей было...
Быў ветлівым нават цынік
За неафіцыйным сталом.

За чаркай непаслушэннай
І чын забываўся, і ўзрост.
І кожны цягнуў з кішэні
Даўно прыхаваны тост.

У неафіцыйнай частцы
Прасілі й святошы naліць.
Жанчынак дзябёла-клубастых
Ніяк не маглі падзяліць.

Хвалілі паездку ў Штаты,
Прыгадвалі цуда-дзянькі.
І ў дзецюкоў з апарату
Развязваліся языкі.
У неафіцыйнай частцы
Лаялі нават начальства.

Шыкоўныя этыкеткі
Скакалі па крузе наўскач.
І на калена суседкі
Паціху паўзла рука.

У неафіцыйнай частцы
Чужых абдымалі свае.
Хто днём яшчэ быў у масцы,
Тут жа здымаў яе.

Дымілася кава лена,
Пусцелі паціху бутэлькі.
І смела рука з калена
Цягнулася пад брэтэлькі.

А на сталах неўпрыкметкі
Вя́лі паўсонныя кветкі.
Спіткі-з'едкі,
Выбачайце, кветкі!..

2. Зак. 408

## НАВАЛЬНІЧНЫ ПРЫПАМІН

У хмары ліловы наліў,
Такі ж, як і ў восеньскім садзе.
Бензін мой даўно на нулі,
З дарогаю нам не паладзіць.

Шапоча паветра:
«Бяжы!»
І шыны на ўскрайку кашмару.
І позірк смяротна-чужы
Сыходзіць з ліловае хмары.

А тут замыкаецца круг
Замком тваіх доўгіх абдоймаў.
Я думаў, цябе ўгавару
Застацца на ноч гэту дома.

Там лесу грымотны абрыс
І тысяча неспадзяванак.
Прыдумшчыца,
Зноў твой капрыз —
Ты просіш у неба маланак.

Ты нават крычыш:
«Выбірай —
Ці прама, ці толькі налева...»
На пекла, не толькі на рай,
Ты сёння згаджаешся, Ева.

Пакінуты звыклы наш дом
І стол з недапітаю кавай,
І ўсё, што было за сталом,
Даўно ўжо табе нецікава.

Ні прывідам страшнай начы,—
Нічым цябе сёння не доймеш...
На хутары сумным, чужым
Ты кінешся чорту ў абдоймы.

І згаснеш, і згінеш з вачэй,
Як znічка ў няскошаным лузе.
На белай даліне плячэй
Завяжацца здрадлівы вузел.

Ну што гэта,
як і адкуль?
Я толькі апомнюся потым
І злосна зацісну ў руку
Свой нож
і ступлю за вароты.

Шпурну я ў цямрэчу той нож.
Ты горка адплачаш пахмеллем.
Ды што там жыццё,
нават ноч
Па-людску пражыць мы не ўмелі.

## БАЛАДА ПРА ЛЮЛЬКУ

Нібы жарало з лафетам,
Хоць зараджай ядром.
Абпыхкала аж паўсвету,
Праехала сотні дарог.

Люлька — муштук салёны,
Трымаць яе — трэба кулак.
З карэтай Напалеона
У край мой яна прыплыла.

Пасля галазаднік цыбаты,
Што неяк спыніўся ў двары,
Маліў у прапрадзеда плату:
— За порткі любыя бяры!

Шкада хоць тых зрэбных портак,
Ды люлька на зайздрасць багам.
«Ні саксафон яна чорту,
Ні — удаўцу качарга!

Нічога, калі папраўдзе,
З такой, брат, не прападзеш».
Шчаслівы быў з люлькаю прадзед,
І з ёй не прапаў ледзьве дзед.

Нехта паспеў данесці,
Што ёсць такі ў вёсцы курэц...
Дзеда начальнік бэсціў:
— Маць тваю, стары хрэн!
Быць на падсуднай лаве
Ты захацеў, ці што?

Адзін толькі люльку ў дзяржаве
Курыць... ты ведаеш — хто?

Аж скаланула дзеда,
Аж пацямнела ў вачах.
Хто ж яго з нас не ведаў,
Страшнага вусача?!

Быў ён і мудры і слаўны,
Страх і суровасць сама.
Зацяжкай яго дзяржаўнай
Кашаль і мёртвых даймаў.

Гора складалася ў горы,
Балела і нам і зямлі.
Люлькі яго крэматорый
Столькі жывых спапяліў.

Патрэскваў агонь у печы,
Маўчаў спалатнелы дзед.
«Гэтак усё недарэчы,
Вораг схаваўся вунь дзе.

Забраўся ж у люльку, нячысцік,
З крошкамі мультану».
І люльку, як стрэльбу калісьці,
У полымя дзед шпурнуў.

Яна праз тайгу і праклёны,
Праз анямелы ГУЛАГ
Карэтаю Напалеона
У полымі тым паплыла.

* * *

Малады залаты павучок,
У праменнай і яснай лагодзе
Ты з маіх месяцовых начок
Нітку срэбную ў дзень мой выводзіш.

Твой узор не паўторыць ніхто,
Вяжаш промень ты дзіўным вузёлкам,
Заплятаючы жоўты лісток
І настылую сінюю зорку.

І наплёў жа ты срэбра, браток,
Паміж сцежкаю гэтай і тою.
Ты ж у срэбраны свой невадок
Можаш сонца злавіць залатое.

Дзверы праўдзе не страх адчыніць,
Ды не проста,
не проста ж усё так.
Шмат надзей маіх згасла ў хлусні
Ды заплецена
ў плеціва плётак.

У гушчар'е,
лам'ё
і суччо
Забрылі мае лепшыя леты.
Павучы мяне, павучок,
Як усё расплятаецца гэта.

Калі гэта мы ўсё распляцём,
Калі гэта расплесці магчыма,
Я на гэта, зямное жыццё,
Гляну іншымі, пэўна, вачыма.

Можа, рухне ўсё злое тады,
Што стаіць перад намі сцяною.
Павучок малады,
залаты,
Дзе ж ты з добрай сваёй навіною?

# ЛІНІЯ ЛЁСУ

На лініі лёсу майго
Вузлы ўсё часцей праступаюць,
Што сціснуты туга тугой
І мне, і нашчадку на памяць.

Яна — з каляін і кругоў,
Сам час яе раскаляініў.
На лініі лёсу майго
Так многа сплялося ліній.

Ад ліній заблытаных тых
Мне страшна часамі бывае.
Там столькі сваіх і чужых.
Адной хіба іх паяднаеш?!

Чыясьці вілася змяёй,
Чыясьці сцяжынкай у лузе.
Там нават і грэшнай тваёй
Завязаны гордзіеў вузел.

Жыццё нас круціла, як вір,
І лінію гнуў я, бывала,
І тую, якую крывіць
І гнуць партмараль не давала.

Пад роем чырвоных рабін,
Праз спелае ніў сугалоссе
Я сам сабе шлях церабіў,
Таму і няроўна ішлося.

Піў раніц рамонкавы ром
І слухаў галовы сівыя,

Трапляў у сіло гушчароў,
У кіпці яго сілавыя.

На лініі лёсу майго
Круцей і круцей павароты.
Гады не губляюць разгон,
Ляцець не губляюць ахвоты.

Распальвае восень агонь
На ўсіх вечаровых паўстанках,
І хітра глядзіць на далонь,
Як некалі ў лузе, цыганка.

Ну, што ж, варажы, варажы
Пра лініі бераг,
пра сконне.
Яна — як і бегла, бяжыць,
На лёгкай пушчанскай далоні.

## ПРА ЗАМЕЖЖА

— Ці быў ты за мяжой?—
пытае хтосьці.
Ды не, ў замежжа пашпарта няма.
Хоць запрашала цётка Польшча ў госці,
Ды гасцявала цёнгле ў нас сама.

Гасцей было,
І вэрхал быў дарожны,
Гасцей плыло,
Гасцей хапала, аж...
А кожны з іх,
хоць самы і набожны,
Не моліцца на Бога, а — багаж.

Мой кожны госць шукаў сабе ахвяру,
Калі не залачоны абручок,
Дык табунок бліщчастых самавараў,
А то і цвік, і сталінскі значок.
А потым у замежжа па даляры,
Саранчавата-шумна, нібы хмара,
І наша павалніла смаркаччо.

Хаця калі грунтоўна пакумекаць,
Дык варт сказаць анкетчыку таму ж,
Быў за мяжой і я у сэнсе нейкім,
Быў за мяжой і я,
Чаму ж, чаму ж...

Гляджу: і вочы вашы пасвятлелі,
Вы нават задаволеныя ўжо.
Ах, вы мяне з паўслова зразумелі,—
Я на радзіме быў як за мяжой.

Быў за мяжою гора і адчаю
І за мяжой цярпення быў свайго.
Цярпення за мяжою пазычалі,
А са спагадаю было заўсёды горш.

Быў два разы на дзень я за мяжою
І часта быў, вядома, на мяжы.
Прылашчаны той ласкаю чужою,
Хадзіў балюча я, як па нажы.

Я стаўся хутка тым, адбмежаваным,
Якога мог ганяць,
куды хацеў,
Любы Макар.
Я быў адмежаваны
Ад жонкі нават,
Нават ад дзяцей.

Не на мяжы я сёння,
А на ўзмежку,
І вам крычу праз «можэ» і імжу:
— Схавайце неспагадлівыя ўсмешкі,
Я не хачу, дальбог жа, за мяжу!

## ЧАРАМША

Святкуе зноў мая душа,
Да Нёмана кіруецца.
Пайшла ў Лядзінах чарамша,
На сонцы аж каруніцца.

Сябры Мікола і Алесь,
Мы сёння сон адрынем.
Вясновай воляй лучыць лес
Нас у адну сябрыну.
Майстры кастроў
і вострых слоў,
Мы лесу не чужыя.
Не церпім мы
хлусні майстроў
І ўсіх яе служылых.

Старым ручвом цячэ рака,
Сваволіцца нібыта.
І чарка сіняга вірка
Па берагі наліта.

Каб жар вясновы не патух,
Бяры той глыт гасцібны.
Жыве-жыве часночны дух
У маладой лісціне.

Калі пачне ён бунтаваць,
І свет пачне кружыцца,
Ён будзе некага злаваць
У позняй электрычцы.

Узыдзе дзіўны той настой
Над Нёмнам і Ушою.
І пацалунак позні твой
Прапахне чарамшою.

Забыць бы ўсё ліхое нам
У гэтым дні вясновым,
І, як падказвае вясна,
Жыццё пачаць нанова.

Але і ўцешынкі адной,
Імгненнай,
выпадковай,
Душы маёй усё адно
Сягоння дастаткова.
Спраўляе сонца зноў імшу
У храме баравінным.
Дык што ж,
За май,
За чарамшу,
За абвяснелую душу,
За гэтых сосен звонкі шум
Спявай, мая сябрына!

# МАЙСТРА

У краіне ідэальнай,
Там,
    дзе ідал —
            ідэал,
Дзе не правіць капітал,
Жыў мой майстра геніяльны,
Ад дзяцінства праз квартал.

У дзяжы мастацтва спеўнай
Дыхту ён даваў усім.
Ён паўглінішча, напэўна,
У дзяжы той замясіў.

Каб да вечных далучыцца,
Трэба майстра здзек цярпець.
Трэба ў гліне нарадзіцца,
Каб навек забранзавець.

Ты аднойчы хоць знароку
Зазірні ў той цуд-скляпок.
Колькі-колькі на патоку
Там застыла чарапоў!..

Аж пацеў той мастар слынны —
І было за што пацець —,
Каб на тую лепаніну
Толькі вокам паглядзець.

Сто разоў ён кроіў вуха,
Доўжыў і курносіў нос.
Як ні злепіць — тут жа муха
Несла ў ноздру свой данос.

Згладжваў складкі і маршчыны
І, было, перагінаў:
У жаночы фрэнч мужчыну
Ідэальна апранаў.

Ці такая нескладуха —
Твар бязвухі, як пухір.
Дзе хто бачыў, каб без вуха
Быў любімы правадыр?!

Ён жа дужы, ён жа гожы,
Ён жывей за ўсіх жывых.
Ну а тут, ты глянь, ён можа
Нават быць без галавы.

— Гэта ўсё яшчэ сырое,—
Майстра хітра падміргне.
Вуха тое і другое
Добрай чаркай спаласне.

Як паплешча, папалошча,
Твар адразу ажыве.
І праз нейкі час на плошчу
З бронзы ідал паплыве.

Будзе й тут яшчэ ці мала
Мітусні і валтузні.
Помнік, ясна ўжо, удалы
Зіхаціцца і звініць.

Ды няма яшчэ ўсё згоды,
Як стаяцьме правадыр.
Калі тварам да народа,
Задам да каго тады?

Пасля высілкі упартай
Мудры й вырашаць тады:

Так яго паставіць варта,
Каб да сонца быў заўжды.

І ўздымаўся, Бог, магчыма,
Ці на Бога прэтэндэнт.
Ты ж гадай —
З любві айчыннай
Ці з маны той манумент?

І стаіць ён слаўны, слынны,
Бронзай грозна ўбіты ў быт.
І цалуюць лоб аршынны
Аэлітна галубы.

## ПАЎДЗЁННЕ ВЯЛІКАГА ГОРАДА

У час у гэты найгарачы,
Хоць па любой бяры шкале,
Якіх варункаў ні пабачыш
У гулкім горада катле.

Нас не гадзіннік сварыць з часам,
Хоць час ляціць,
а не паўзе.
Атака вос на бочку з квасам —
І смага ў доўгае чарзе.
Дух агародны,
дух пякарны
І дух зусім чужых дароў.
І будак лад несабакарны
З прыбрэхам гострым гандляроў:

«Самая духмяная нашая пархума...»
«Нашыя гандоны з найпяшчотнай гумы...»
«Марачкі, даляры...»
«Вось як дам па хары...»

Мой сумны дзень, як выраз боскі,
Зусім пусты мой кашалёк.
Ну, а патрэб маіх
сам коська
Цыганскі б той не павалок.

Знаёмы твар і выпадковы,
І чыйсьці згублены гаплік.
А дзе ж той майстра абутковы?
Ды недзе пры Хрушчове знік.

3. Зак. 408

Хаця па ім і не сумуе
Замежнай пробы чаравік.

Хоць камерсант тут нешта вудзіць,
Ды сумна ў шапцы жабрака.
Вірыць, цячэ двухжыллем вуліц
Аўтабрыдотная рака.

І сябру ты з пакутным болем:
«Ці да дабра ўсё прывядзе?
Іх тут, машын, намнога болей,
Чым рыбы ў свіслацкай вадзе».

Не скажаш ты, хоць коле зрэнкі,
Да густу больш кладзецца што —
Ці міні моднае студэнткі,
Ці міністэрскае аўто.

То след былой ці новай звычкі?
Але няхай яе кадук.
Не возьмеш штурмам электрычкі —
Не трапіш на сваю граду.

Жыцця затлумленага боўцень,
Пяе,
гудзе,
бушуе поўдзень.
Бярэ ён лёгка, як пяе,
І грошы й думкі ўсе мае,
А здачу снамі аддае.

* * *

У цішыні вечаровай
Ёсць дзённага многа зману.
Слізгае плыткі човен
За сінюю пражу туману.

Гэта як дзіўныя кросны,
І шлях твой Нёманам тчэцца,
І голас,
ад шчасця млосны:
— Скажыце,
а рыбка бярэцца?

— Бярэцца, але не тая.
А хто там такі пытае?
— Свае мы тут,
Сваякамі,
Калі захочаце, будзем.
Сваячка сама рака ў нас,
Свае — па вяслу
і вудзе.

Недзе крычыць маторка,
Калодзеж вядром барабаніць,
І птушкі намоклае пёрка
Чэрціць трывогу ў тумане.

Музыка вёсак вячорных
Проста ў душу заплывае.
Лёгка плывецца чоўну,
А бераг
маўчыць і чакае.

З кастра,
саганка
і солі
Складзена тое чаканне.
Плыві, мой чоўне,
паволі,
Не заблудзіся ў тумане.

# ПЛАЧ ПА ДОМЕ

Памяці Дома пісьменнікаў
па вул. Энгельса ў Мінску.

Зрэшты, сэрцу майму
Слёз і сноў маіх будзе замала.
Па лесвіцы гэтага дома
Гісторыя наша ступала.

Крокаў громных яе
Больш ужо не пачую.
Гісторыю калі і шануюць у нас,
Дык болей чужую.

Цёмнай ноччу глыбокай
Яго пахавалі,
Паляцелі прыступкі ўніз,
Нібы хвалі.

І мой дзень найшчаслівы
З прыступкамі разам
Паляцеў недзе ў бездань
Адразу.

Нават чыйсьці радок
І студэнцкі мой гузік
Паляцелі і канулі
У домавым друзе.

І калі было знішчана
Домава цела,—
І душа яго
Воблакам пылу сухога
Да неба, як сон,
адляцела.

А яшчэ раней адляцела душа
І гаўляйтэра Кубэ,
І слязамі шклянымі акон
Аплакала ноч тую згубу.

Пакаралі б гаўляйтэра позна ці рана.
А за што, Гісторыя, ты пакарана?

* * *

Ясна ў двары запалалі імшалкі.
Недзе ў касцёле ідзе імша.
А за сцяною бесперастанку
Шумна шаргоча шаша.

Мама спазнілася на імшу,
Слухае мама сягоння шашу.

Можа, сынок,
А ці ўнучка часамі,
Можа, наедуць, ды не...
І залацістымі кутасамі
Віснуць імшалкі ў акне.

Думае мама,
Мама чакае,
Вёснамі,
зімамі
і вякамі.

Але аднойчы
адчыняцца дзверы,
Выпадзе з рук ссірацела скарачык.
Гляне яна
і вачам не паверыць —
Сына з чужою жанчынай пабачыць.

Кінецца ў сені,
Потым заплача,
Запрычытае
і змоўкне ураз.

— Божа, чаму ж гэта так, а не йначай,
Божа, чаму ж гэта ды няўдача,—
І перахрысціцца на абраз.
А за сцяною шуміць шаша,
Недзе ў касцёле ідзе імша,
І баліць-баліць у мамы душа...

* * *

Пасля навальніцы,
Пад водгалас грому,
Вясёлы і смешны,
вяртаўся дадому.
Смяяліся лужыны шыракарота
Вясёлаю сонечнай пазалотай,
Зялёнаю свежасцю лёгкія хвалі
Вясну маю ясным агнём калыхалі.
Зямля ўся гула,
як зялёнае мора,
Па-райску гучалі птушыныя хоры.
Зялёны мой колер
стаў бурштыновым,
І недзе балюча прачнуўся барвовы,
І столькі адценняў адразу знайшлося
У птушак,
у дрэў,
у травы сугалоссі.
Былі мы з вясною раднёю па духу,
І я пра цябе так вяснова падумаў.
Суцешыла й тая, крылатая, ў жыце:
— Жыць-жыць!
Вось з настроем такім і жывіце!
— А колькі хоць часу?—
Спытаў выпадкова
У хітрай зязюлі з тутэйшай дубровы.
І быў той адказ аж занадта суровы:
— Жыцця за палову...

* * *

Зялёным шклом зашклёны
Твой домік веснавы.
Успыхнулі вазоны
Такім святлом жывым.

Час сее вечарова
Расяную слюду.
Шмат сцежак шпацыровых,
I ў зман усе вядуць.

Чыя ж рука адчыніць
Зялёнае акно?
Няма, няма прычыны,
Няма і... не відно.

## СПОВЕДЗЬ

> Вёску стварыў Бог, а горад — д'ябал.
>
> *Стэфан Жаромскі*

Як некалі жыў я ў Бога,
О, як мне шчасліва жылося.
Па часе тым боскім шчаслівым
Гады мае плачуць жалосна.

Не жыў я за пазухай боскай,
І Бог тады жыў не на небе,
А жыў ён у хатах і сэрцах
І жыў у віне і хлебе.

Яму спавядалася пушча,
Укленчыўшы краскамі шчыра,
Яму спавядаўся небам,
Зямлю пакідаючы, вырай.

І я, неслухмянец і вісус,
Не крыўдзіў у пушчы ніколі:
Ніводнае дрэва — у лесе,
Ніводнае птушкі — у полі.

Не крыўдзіў, бацькамі клянуся,
Ні Ганначку, ні Матрунку,
Калі, можа, чым і пакрыўдзіў,
Дык толькі хіба пацалункам.

А потым, даруй мне, вёска,
Падаўся я ў горад вялікі.
Часінай вясёлай вясновай
Туды мяне д'ябал паклікаў.

Хаджу між забытых, адпетых,
Камусь «Алілуйя» спяваю.

Камусьці даю на піва,
Хоць сам і на хлеб не маю.

Трамвай праклінаю цесны,
Дзе езджу заўжды на падножцы.
І хлеб свой нясу апошні
Бяздомнай, прыблуднай кошцы.

Я грукаю ў дзверы начныя,
Куды мяне не пускаюць,
Прыпынкі мае завуцца
«Мутнае вока» і «Скалы».

О страшны ўказальнік часу,
Чытаю, напружваю вочы:
«Ты мусіш адрынуць д'ябла,
У дзень падавайся з ночы!»

Налева — балота, залева,
Направа — канае канава.
А прама — дарога да храма.
Туды мне!
Туды і пайду!

## У КАЛЯДНУЮ НОЧ

Прыціснуць, дыхнуць глыбока
Калядныя маразы —
І кветныя шыбіны вокан
Засвецяцца, як абразы.

На тых абразах варажу я,
Да хаты падацца якой.
Сягоння ж усе прыгажуні
Сыходзяць з пушчанскіх ікон.

Падацца да хаты пад клёнам —
А сэрца ірвецца туды, —
Ды там жа штукарка Алёна.
Ой, будзе бяды, як тады.

А ў хаце другой пад таполяй
Анэтка.
...З агню фартушок.
І хлеба хапае, і солі,
Ды нехта туды ўжо зайшоў.

А ёсць пад бярозаю хата,
Туды б, да Агаткі, зайсці.
Такая каса у Агаты —
Да ранку не расплясці.

А можа, пад вішні да Гэлькі —
Няма ад яе харашэй.
У Гэлькі падушкі пад бэлькі,
А гонар, той нават вышэй.

Не грэх і пад грушу да Веркі,
У светлую хату, як дзень.

А Верка сама, як цукерка,
А можа, яшчэ саладзей.

Чакаюць і Кася, і Стася,
І ў кожнай акенца заве.
Ды моўчкі іду я пад ясень,
Дзе панна Данусяжыве.

Вясёла, салодка ў Данусі:
І сіненькі ў чарцы агонь,
І жаркія-жаркія бусі,
Чаго ж яшчэ трэба, чаго?!

Паціху акно засынае,
І станік злятае да ног...
Працягвайся аж да мая,
Калядная доўгая ноч!

## ВОСЕНЬСКІ МАТЫЎ

Той бераг заламаны пакруглеў.
Вачам тваім аж весела праз гэта.
У жорава — зазімак на крыле,
А пад крылом чужое дрэмле лета.

Ён з пералётных птушак, як і ўсе,
Не сціснуты дугой берагавою,
Як ты, мая палонніца, са мною:
Адно крыло прымлела пад страхою,
Другое — уцякачкай на страсе.

Ды не ўцячы табе з адным крылом.
Наш круглы бераг не асірацее.
Чужая птушка просіцца ў наш дом
Пад золкай дажджавою ліставеяй.

Цыганства столькі ў познім тым лісці,
Што жах даймае доўгімі начамі.
А нітка лёсу тоненька трымціць
Паміж двума крутымі берагамі.

## У ЛЕЦЕ 1977

Ані звыклага, ні цудаў,
Сонца неспагаднае.
Мые ў моры міс Піцунда
Плечы шакаладныя.

Ноч змывае з воч заспаных
Хваляю бяссоннаю.
Пасля тлуму ночы п'янай —
Ранне пахмялёнае.

Ёй заказаны білет
Самым познім — з Адлера.
Ёй з правінцыі паэт
Тут ва ўсім спагадвае.

Можна ўсё, чаго няможна,
Цыгарэткай гаснуць дні.
Спіць у Мінску муж трывожна
І далёкі бераг сніць,

Дзе ўсё пальмы,
Дзе ўсё пары,
Хвалі,
        мора
                і віно,
І ў чужым паўцёмным бары
Ліха таньчыць міні-ноч.

Рэўнасць смутку не дарадца.
Сцеражыцеся яе.
Небяспечная і ў дваццаць,
Спаць і ў сорак не дае.

## НОЧ У СТЭПЕ

Чужая ноч нібы аблога.
Штурмуюць мошкі ліхтарок.
І гэту ноч з яе дарогай
Я выбраў сам і сам нарок.

Сабе я не знаходжу месца
За гэтай здраднаю смугой.
І ў хмары сіне-страшны месяц,
Бы ў саркафагу Пірагоў.

Чыхсьці ног ступа тупая,
Наспех разлітае віно.
А стэп пад грудзі падступае
Крыклівым пахам кавуноў.

Няхай не будзе крок аблудным,
Я ўсё ж кагосьці тармазну.
Той грузавік нудліва-гудны
У кузаве вязе труну.

Хацеў бы вырвацца з начы я.
Свой боль і боль чужы адкуль?
Галосіць і крычыць жанчына,
Аж плачуць семачкі ў мяшку.

Паліцца шлях у цёмным стэпе,
І я спалохана маўчу.
Чаго, чаму па ночы, Стэфа,
З бядой чужою я лячу?

Чаго, чаму, ты мне не скажаш,
Ты рана спаць сягоння ляжаш.

Чаму не дачакаўся рання,
Чаму?.. І нечакана так.
Я ў шыбу доўга барабаню
На соннай станцыі Чэкрак.

Агеньчык кветкай над плітою
Успыхне,
хата ажыве,
Калі цяпло святое тое
Начной кашуляй праплыве.

І будзе ўсё, што быць павінна,
Затлее ранак у акне.
На куфліку — асадак віння,
Як на душы,
на самым дне.

На самым дне ён самы даўкі,
Яму й ляжаць на самым дне.
Плыве і сёння над гадамі:
— Ты прыхіліся да мяне...

Звычайна пража дзён прадзецца,
А ў памяці жыве, не знік,
Той стэп,
А ў ім бяжыць,
трасецца,
З трунай і плачам грузавік.

* * *

Карадаг,
Карадаг...
Серпакрылая,
Як птах,
Рушыцца скала над морам.
Вышыні арлінай дах.
Мне на шчасце ці на гора?

Пад крыло чужых пяшчот
Заманіў цянётны вечар.
Ты амаль яшчэ дзяўчо.
Крылы гладжу я ці плечы?

І ўстае начы абрыс,
Як скала над часам.
Чайкай ты ляціш уніз
Са скалы адчаю.

Шчасця полымны агонь
У вачах шалее.
І ад позірку твайго
Позні яблык спее.

Эх, сад-вінаград...
Я і сам сабе не рад.

Свет вялікі і малы.
Трэба ж так упасці:
Гэтак крута са скалы
І... адразу ў шчасце!

* * *

У пасцелі чужой
Я краду цябе
гэтай завейнаю ноччу.
Ты сама памагаеш мне,
Ты сама быць украдзенай хочаш.
Ты з агню ўся,
Агнём тvae вытканы чары.
Ты палаеш уся,
Ты — з пажару.

І з агню тваe вусны,
І грудзі, і сцёгны,
І агнём нетутэйшым
Палаюць на пальцах пярсцёнкі.
А дыханне агню тваё
Гэтак нясцерпна
Гэты келіх няпоўны гайдае,
І неба, і сцэны.
І чуваць у крыві
Залатога агню калыханне.
Гэта вогненны бунт,
І яму не суняцца да рання.
Божа, што ж [redacted] раблю.
Незайздросная ў злодзея роля.
А краду я агонь,
Трачу розум і волю.
І глядзіць са сцяны,
Гэтак светла глядзіць,
Без дакору,
Той абкрадзены твар
На мой сорам.

Страшна мне.
Перад караю толькі
Так страшна бывае.
І струмнем віна
Страх я свой заліваю.

Злодзей я.
Божа, выслухай гэтую споведзь
Маўкліва,
А пасля пакарай.
Я прыму тваю кару цярпліва:
Выкраданне агню —
Гэта грэх асаблівы.

# НАД ХВАЛЯЙ ДУНАЯ

Ляцелі дзве гусі з далёкага краю,
Памуцілі воду на сінім Дунаю.

*З народнай песні*

Блакіт славянскі варажыў над намі.
І я лучыў вандроўнаю вярстой
Лятучы мост над хваляю Дуная
І сонны бераг з чоўнам-сіратой.

Каціліся ўспаміны —
вал за валам,
Дрымотна туманела далячынь.
Дунай, Дунай...
Тваё імя спявала,
Ды плакала твая рудая плынь.

Спявалі пра красу яе
здавёна.
Не можа й песня ўратаваць ракі.
Дунай, Дунай,
Дзе твой блакіт хвалёны?
Спазніўся я.
Хтось выпіў твой блакіт.

Цябе не нашы гусі памуцілі —
Іх пёрыйка
ад сонейка святлей.
Твае ўсе мелі мераў я на мілі,
Ты нават на вачах маіх мялеў.

Пад небам вечаровым Брацiславы
Цябе я ўслед за хваляй пераплыў,
Далёкі мой,
блакітны і ласкавы,
Якім калісьці ты (а праўда ж!) быў.

Ад бед і мод глумлівейшага веку
На згонне веку болей не ўцячы.
Не зберaглі,
Не зберaглі мы нашы рэкі.
Дык будзем душы нашы берагчы!

* * *

Спакой і сум перадзімовы...
Сцяною дождж,
Сцяной туман,
І прысмак вогнішча гумовы,
І гушчароў глухіх падман.

Які там сум, калі папраўдзе,
Калі твой летні дужы плён
У скрыні складзены і кадзі,
У ценжар свірнаў і гумён,

Калі шыкуюцца вяселлі,
Калі шаўкуюцца ніты,
Калі і ў восені
Вясенняй
Яшчэ так многа пекнаты.

Мой дзень, хады табе вясёлай!
Мой млын, пустога не мялі!
А жураўлю — дарога колам!
І ціхі цёплы сон — зямлі!

## ПРЫВАЛ

Стома хваляю духмянай
Ціха льецца да грудзей.
П'яна полю і паляне,
І табе, стамлёны дзень.

Гук чмяліны тчэцца роўна.
За ствалы падаўся цень.
Васілёк жытнёвы,
родны,
У салдацкім сне цвіце.

Сінім вокам ён міргае:
— Ты, зямляк мой, ты не госць.
Будзь спакойны — ў нашым краі
Зберагу й прыгажосць.

Толькі ты, мой родны воін,
Тым жа самым адплаці —
Зберажы мне гэту волю,
Зберажы мне гэту ціш!

* * *

Сасмягла зямля ад бязлітаснай спёкі,
І гады пушчанскія ў двор папаўзлі,
І недзе пляткарацьтрашчоткі-сарокі,
Што будзе, што йдзе ўжо бяда па зямлі.

А бацька мне кажа:
— То Бог нас карае.
Бязбожнікі мы, награшылі мы шмат.
Вунь цень беданосны ўжо ходзіць дварамі,
І ў кожным двары толькі мат-перамат.

І, праўда, гляджу:
захлынулася рэчка,
Спалілі на могілках недзе крыжы,
І нехта нагой падфутболіў гняздзечка,
І бліснулі ў цёмным пад'ездзе нажы.

І бацьку кажу я, што так не бывае,
Нас людзі караюць, братове якраз.
...А карнікі недзе вінцо папіваюць
І з Бога смяюцца. І цешацца з нас.

## ГУЗАК

Ходзіць важна, як гусак,
Не бярэ кілішка.
Ён па-нашаму — гузак,
А па-руску — шышка.

Сеў не дзе — на галаве
І адтуль ківае.
І відаць самой Маскве,
Як картуз здымае.

Хоць народжан — Божа мой! —
Ад якойсьці бэлькі,
Ды ў Варшаве у самой,
Як прыкленчыць,— велькі.

А ўстае з нагі не той,
Лае, бэсціць гурт наш.
Ён па-нашаму — ніхто,
А па-польску — гуўнеш.

* * *

Колецца слоўны ядловец.
Будзеш і сёння ты бедны.
Бяжыць малады аглаблёвец
З хваткай старою Бэндэ.

Хай лямантуе. Вушы заткну,
Але вачэй не заплюшчу
І ціха падамся туды, у вясну,
У дарагую пушчу.

Гэта не ўцёкі, не боязь мая,
Я джалаў ліхіх не баюся,
Ды хай лепш у пушчы свая змяя
За грэх мой мяне укусе.

* * *

Сцежку выбраў сабе
У раздолішчы самым.
Сцежкам веры няма,
Сцежкі хлусяць таксама.

Сцежка ў зман павяла,
Сцежка хісткаю стала,
А пасля у снягах
Ручаінай растала.

Сярод талых снягоў
Доўга цень мой хістаўся.
Хутар крыжам акна
Ад мяне аджагнаўся.

Зноў на сцежцы на той
Ручаіна вуркоча.
Хай усцешыцца той,
Хто пацешыцца хоча.



Ты забудзь пра рыбку залатую,
Будзь удзячны проста карасю.
Што рака жыцця табе рыхтуе —
Ты яшчэ не ведаеш дасюль.

Бегучы ад поснага і нашчага,
Карася шпурляеш у гаршчок.
Як пытальнік існавання нашага —
Рыбалова вострыцца кручок.

* * *

Аднаго мы поля ягады,
І сцяжынка ў нас адна.
Вось сядзім з табою —
Я ды ты —
Давідна-а-а...
Каву познюю салодзячы,
Мы чытаем даўні ліст.
Як вядро ў старым калодзежы,
Зноў грыміць заспаны ліфт,
Грымне музыкай спагаднаю
На суседскіх кухнях звон.
Мы ж табе непадуладныя,
Праўда, сон?!
Языкастыя зайздроснікі,
Ім ніяк нас не даняць.
Хоць бывае часта злоснаю
І твая й мая радня.
Не разліць вадой ніякаю
Нашай згоды ўсё адно.
Мы — дзве ягады,
Дзве ягады
На сцяблінцы на адной.
Пройдзе ўсё,
Усё забудзецца,
Змоўкнуць здрада і мана.
І калі паблізу будзеце,
Просім дом наш не мінуць.

* * *

У кожным часе вецер свой,
І ветразь свой
У кожным часе,
І свой салдат,
І свой вар'ят,
І свой герой
у кожным часе.
Свой млын падзей,
І свой маяк,
Засевак свой
у кожным часе,
І песня самая свая
Заўсёды ёсць у кожным часе.
І ёсць свой самы верны шлях.
І так,
наіўнае пытанне:
А што пасля,
А што пасля?..
А проста... іншы час настане.

* * *

У рагаломным гушчары
Начуе томная ласіха.
Далёка недзе спяць вятры
І ў гушчары —
самотна-ціха.
Яе млынастыя бакі
Ноч раскалыхваюць паволі.
Цягучы холад ад ракі
І цэлы лес вячыстай волі.
Паснулі травы ўсе даўно,
І мох цяплом ёй спагадае.
А ў поўсці зоркай слюдзяной
Гарыць расінка маладая.
Ачэрхне адляжалы мох,
І здрыганецца хіб спрасонку.
Глухі, глухі ў галін замок
Ды ненадзейныя засовы.
Памалу морак растае
Пад золкім месячным прыглядам.
А след прыстуджаны яе
Бяду заблытвае на лядах.

5. Зак. 408

* * *

Так свяціла сонца там,
Што без крыл туды ляцеў я.
Праз дарогу разматаў
Чорны кот клубочак цемры.

Адышоў самотна ўбок.
Праўда, значыць, вось якая:
Там вяселле,
як клубок,
Па маім святле скакала.

Адскакала, адгуло...
І зайшлося сэрца плачам,
І схаваўся за вуглом
Чорны кот маёй няўдачы.

* * *

Радок хоць і самы навейшы,
Старою сцягою ідзе.
У крузе паэтаў старэйшых
Яшчэ я не звыкся сядзець.

Свавольніцу маладую,
Я рыфму гвалтую штодня.
А з пушчы, гарэзную тую,
Як некалі, страшна абняць.

У памяці выблісnumуць ярка
І гэты, і той адрасок.
І поўна налітая чарка
Па вуснаў тваіх паясок.

* * *

Дзіравы ветразь.
Хмурае дасвецце.
У гнеўным моры
Мару не дагнаць.
Даўно-даўно ўжо памяняўся вецер,
А ветразь мы не хочам памяняць.

* * *

Будзе свята і на нашай вуліцы —
Некалі сябе я суцяшаў.
Будзе свята,
Свята наша збудзецца.
Есць жа яно ў птушкі й мураша.
Будзе свята — свет увесь пабачыць.
А спачатку праца, без лянот.
Я на тое свята так ішачыў,
За станком выцягваўся, як кнот.

Стаўся стройным,
лёгкасці спартыўнай —
Я на пяцігодку так пацеў.
На галоўцы гладзіў бос партыйны,
А сябе чамусь — па жываце.

Вось іду па вуліцы па роднае,
Вось іду у шчасце я ў сваё,
А на ёй шпана таўчэцца розная,
А на ёй ніякіх заваёў.

Есць піўны шалман на нашай вуліцы,
Будачка шавецкая й турма,
Ходзіць певень дапатопны з курыцай,
Толькі свята ўсё няма, няма...

# КАМАРОЎКА

Пакуль мой край балотна камарыўся
І лапатная слава йшла пра нас,
Пакуль булён будзённых спраў варыўся
І я сваёй сталіцай ганарыўся,
Мяне ў свой·вір зацягвала яна.

Хай кажуць, што гандлярка ці зладзейка,
А што, як ролі іншае няма?!
Пад шэраю бетоннай цюбецейкай
Яна сябе прыдумала сама.

Яна пяе,
смяецца,
гарлапаніць
І свой тавар, ды і чужы не ганіць.
Даволі хутка і даволі лоўка
Кішэні ачышчае Камароўка.

Бывай, мая кароўка і вяроўка,
Прайшлася ты ад стога да стала.
Праз шлунак ненаежны Камароўкі
І пушча наша з клункамі пайшла.

Не казка хоць, а ўсё нібыта ў казцы,
Да тых трыбун прыгледзішся калі.
Выседжваюць цярплівыя каўказцы,
Як куранят, пісклявыя рублі.

Не дай, не дай і ты, пушчанец, маху.
Пакуль чарга зайздросна зеўрыць рот,
На шалю узыходзяць, як на плаху,
Мой сад прыналібоцкі і гарод.

Мне сунуць грыб наш з радыенуклідам,
На здачу сарамліва йдзе купон.
Гармонік плача ў шапку інваліда,
Гармонік плача сёння і спакон...
«Растуць грушы на вярбе,
А на елцы — дулі.
Куплю станік я табе,
А сабе — кашулю...»
«А мой тата з горкай долі
Прадаў порткі — купіў солі...»
Мне думак самых горшых не адрынуць:
Пакуль дзялкі ад радасці вішчаць,
Уся краіна рынулася ў рынак,
Аж подвязкі і гузікі трашчаць.

Бяжыць у ранак і пыліць дарога,
І ёй, дарозе, не перадыхнуць.
А рынак што?
А рынак анічога,
І прэзідэнта, і самога Бога
Тут, не маргнуўшы вокам, прададуць.

Ты не глядзі заспанымі вачыма
На ходкія вясёлыя рублі.
Тут ворагаў яшчэ купіць магчыма,
Ну а сяброў даўно ўжо прадалі.

Усё ў цане.
А сам наш тлум — бясцэнак,
Сумленне ж раздаецца проста так.
З якіх, глядзі, неверагодных сцэнак
Жыцця майго скалочаны спектакль.

Дык не пытайся, брат мой, як жывецца.
Усё-усё, як бачыш, прадаецца.

# ПІЛІПАЎКА

Зашывае мароз
Паднастылыя вокны,
Лес здранцвелы маўчыць,
Як захмараны мур,
І ўцякае зіма
Ад галоднага воўка.
Воўк галодны,
Ён можа глынуць і зіму.

Ёсць паднебны суддзя
З назвай страшнаю — голад,
Усеўладны,
Ты мусішся слухаць яго.
Загадае —
І пойдзеш,
Ці босы, ці голы,
Мусіш рэзаць чужога
І грызці свайго.

Хмура гляне важак
І абвые халодную поўню,
Дасць надзеі слабым
І агонь разгукае ў крыві.
Трэба сёння ісці,—
Заўтра можа быць позна,
Трэба род ратаваць,
Ды і рот не ўгнявіць.

І таму яны йдуць.
Пакідаючы ў логаве меншых,
Праз засады марознай

І звонкай начы,
Дзе ў паветры
Расолам тугім перамешаны
Пах крыві
Пераможны
І пах асцярожны мачы.

Гэта вёска лясная
І будыніна з краю.
Вунь туды і кіруе
Ваўчыная зграя.
Беражыся яе,
Хлеў і вёска лясная,—
Гэта ж зграя!

У аблiччы інакшым,
Зусім не ваўчыным,
Супынілі яны
Мяне ўчора ўначы.
Бляск лязовы вачэй,
З плеч чужая аўчына.
І да горла лязо —
Паспрабуй уцячы.

Білі шыбы на дачах яны
І на шклінах скакалі.
Нават меншыя
З імі у скокі ішлі.
І ляцеў
Прама ў сэрца
Мне пушчаны камень,
А назаўтра ваўчыных слядоў
Не знайшлі.

Хоць выццём заліваліся
Вёска і горад.

І малілі ўсе Бога,
І клялі ўсе звяр'ё.
І суддзя ці не той
З назвай страшнаю — голад —
У ціліпаўку зноў
Нашу долю завёў.

Ён у сэрцы прысніць
Капіляр чалавечы,
А звярыны разбудзіць
І моцай нальє.
Ён раз'юшана кінецца
Ў статак авечы,
Хоць пастух і авечкі
Не з неба — свае.

Веру ў праўду й народ,
У зямлю сваю веру.
Многа ў свеце збалелым
Маёй абяднелай радні.
О, не дай жа ім, Божа,
Драпежнасці звера.
А ўсім тым,
Хто ім стаўся,
Душу чалавека вярні!



Сягоння хавалі даносчыка,
Пад восеньскай
зольнай смугой
Ішлі за труною нябожчыка
Схілёна заслугі яго.

Ішлі роўным строем даносы,
За імі ішлі медалі,
І цені чыхсьці лёсаў,
Замардаваных,
ішлі.

Па хліпкім дажджовым месіве,
Лісцём перасыпаным спрэс,
Ішлі ў той маўклівай працэсіі
І гэты, і той працэс.

Аблокі плылі,
калыхаліся
Над цяжкай працэсіяй той,
І жоўтае лісце шапталася
Даносам пад нечай пятой.

Ішлі ля застыглых позіркаў,
Не вочы — адна слюда.
Радком яго хісткага почырку
Здавалася тая хада.

Начамі,
Вачамі бяссоннымі
Чыюсь маляваў ён віну.

Хай ад яго,
Нястомнага,
І ночы цяпер адпачнуць.

Пра мёртвых не кажуць благога,
А добрага што сказаць?!
Тут, мабыць,
І ў Бога самога
Не выплачацца сляза.

Не будзе дарогі зваротнае,
Нязносны даносны лёс.
Даносіў ён столькі, гаротнік,
А тут вось і не данёс...
Ну тую, перадсмяротную,
Да вуснаў...
Чарку.

## ГУМЯНОЎСКІ ЛЕС

Гарыць бруснічная зара,
Аж на камлях
Чырвоны водсвет.
І па-лісінаму нара
Хітруе,
каб заблытаць вока.

За хітрасць хваліш ты нару
І зноў вачам сваім не верыш:
Як ні стараўся дрэваруб,
Але жыве твой верны неруш.

І хоць знаёмы зман сцяжын,
Ды з ім табе не размінуцца.
І уляжалыя лаўжы
Здзіўлёна раптам зварухнуцца,

Калі пачнеш ты варушыць
Руно імхоў заржавелых
І ціш,
сугучную душы,
Кранеш лістком адшапацелым.

Лісічкі разлілі жаўток,
Снуюць стамлёныя мурашкі.
І бразгат коціцца
з кустоў —
Вядзерцу ягаднаму цяжка.

Па сцежцы цуд прыйшоў які?
Трымціць аброшаным прыполам.

З-пад цёплых маладых лісткоў
Дзве ягады глядзяць вясёла.

Птушыны лёгкі пераспеў
На сэрца зваблiва кладзецца.
Мой лес у леце пераспеў,
А сцежцы лёгка так ідзецца.

## ПАЛЯЎНІЧАЯ РАНІЦА

Сасонкі ў бары
раскалыхваюцца,
Бы ў песні вясельнай дзяўчаты.
Хараша як дыхаецца
Каля паляўнічае хаты.

Кружыць матыль над калодзежам,
Песню высноўвае дрозд.
Да болю асцём абкалотая
Бяжыць сцяжынка наўпрост.

Гоніць ганчак шалёна
Соннага шарака.
І столькі адчаю прышклёна
У цёмных вачэй абадках.

Гэта ўсё там,
за соснамі,
За паскам канавы рудой.
А тут саганок пасопвае,
Пакрэктвае з квасам бідон.

Застыглы струмень жывіцы
Свеціцца на камлі,
І хочацца паўтарыцца
Жывому ўсяму на зямлі.

* * *

Ты прыпомні дзень спякотнай стомы,
Жах бярэ, калі яго сасню.
Падаў камень з прыбярэжнай стромы
І пайшоў балюча ўглыбіню.

А за ім кругі, аж плынь кіпела,
Цяжкі глыт шалёнай глыбіні.
Беражанка спуджана ляцела
Да сваёй бярэжнае радні.

Сталі нават вербы на калені,
Быццам бы віной былі яны.
Не ўтрымалі камень той карэнні
Векавой сасмяглае сасны.

І стаялі мы з табой знямела,
Пырскамі нас нават абдало.
Нехта ў лодцы лёгкаразамлелай
Выпусціць спалохана вясло.

Гэта ўсё забылася, растала,
Весялосцю баўнай заплыло.
Калі часам ты прыпамінала,
Я казаў:
«Такога не было».

А жыццё з такім панесла громам
На свае крутыя берагі...
Падаў я і сам пасля са стромы,
А за мной бядой ішлі кругі.

## СОН У ЛОДЦЫ

У лодцы яны ад шчасця самлелі,
Гайдаецца лодка, нібы лілея,
На плыні азёрнай.
Як ад лілеяў тут зорна!
Лёгка гайдаецца лодка
І вуснам — салодка.
Схаваецца сонца за хмары,
Іх найміткай ценю накрые,
Яны ж як нямыя.
Плясне шчупак,
Аж кругамі вада загуляе,
А іх яшчэ болей люляе.
Прычоўніцца чайка,
Крыло маладое абмые,—
Яны ж як нямыя.
Ціха на бераг сыходзіць
Вячорная дымка.
Цёплы вянок беражаны
Вянок замыкае абдымкаў.

Блізка да вечара, блізка,
Гайдаецца шчасця калыска.

* * *

Час сонца надышоў
У родным свеце нашым.
Штыкамі ледзяшоў
Драконіцца прыдашак.
І зноў зарэчны луг
Кратамі узараны.
Пара будзіць пчалу,
Але ў палёт зарана.
Бо спіць яшчэ мураш,
Не адтае бяроза,
І пушча ўся наўсцяж
Прашклёная марозам.
І ранкам у дварах,
Хаця і звонка песні,
Марозная зара
Сцякае з грэбня пеўня.

## ПРАДЧУВАННЕ

Што прыгорбіўся ты
На гарыстым уздыме?
Чвэрць апошняй вярсты —
У тумане і дыме.

Гора даўняга горб
Цісне долу памалу,
Цісне долю ці мала.
Недзе ў чэраве гор
Дрэмле чорная магма.

Калі грымне яна
Над айчынным пагостам,
Нават стогн твой пазнаць
Будзе ўнуку няпроста.

Калі выбухне ён,
Той вулкан старадрэмны,
Слухаць даўні мой стогн
Будзе, мабыць, дарэмна.

Крэмнем ранне гарыць,
І вулкан той я чую.
Дрэмле ён у гары,
А ў душы ён бушуе.

## ЛЕТНІ СОН

Гляджу не ў корань.
Больш гляджу я ў Кромань:
І верхавіны й кроны там відаць,
І хмары, ацяжараныя громам,
І ясная зялёная вада.

Глядзі ў люстэрка хвалістае гэта —
І ўбачыш, як з далёкай глыбіні
Сірочай зоркай выбліснe манета,
Што хлапчуком трымаў на далані.

І хоць не стала доля сіратою,
Хоць беражком бяды прайшла яна,
Люстэрка тое ты шануй за тое,
Што праўду ўсю высвечвае да дна.

Усё відаць:
у воку парушынка,
Цень у святле і промень за смугой,
І нават прыхаваную маршчынку
Пакажа,
не схаваеш ад яго.

Твар хутарка і грозны твар сталіцы
Разгледзіш добра ў плоскасці адной.
Як наша зло шырока караніцца
Табе пакажа, мудрае, яно.

О, як яны пакручаны, карэнні,
Нявер'ем, крыўдай,
злоснаю лухтой,

Нібы рабоў пакутныя калені,
Якіх ужо не выпраміць ніхто.

О, як яны балюча, нашы вочы,
Адтуль глядзяцца, з яснай глыбіні,
Ды розняцца усё ж па чысціні
І дабрыні,
нібыта дзень ад ночы.
Ты там другі,
А тут зусім інакшы,
І гэтак дазвалялі берагі,
Што нашы ўсе грахі — зусім не нашы,
І не люстэрка гэтага грахі.

Не стануць слёзы нашыя бурштынам
І не дабавяць на зямлі святла:
Ружанцам росным коцяцца хвіліны
Ля тога і ля гэтага ствала.

І таямніцаў не хавае неба,
І ўсё, як споведзь, думнае наўдзіў,
І кажа з глыбіні паўдзённай нехта:
— Глядзіся ў Кромань —
І ў сябе глядзі!

## «ФЭД»

У цішы сухой, сасновай,
Дзе свяжэў ласіны след,
Вокам Фелікса суровым
Падміргнуў мне сябраў «ФЭД».

І, як вызірк таго вока,
У прытомленым акне
Доўга ноччу з-за аблокаў
Поўня страшыла мяне.

Спаць бы мне тым сном глыбокім,
Як пушчанцы спяць мае,
Але вока,
Страшыць вока,
Спаць мне вока не дае.

Бліскавіца дасць аўтограф,
Калі будзе угавор.
Не саромейся,фатограф,
І хутчэй узводзь затвор.

Зноў вінтовачным затворам
Адзавецца даўні гук,
І расціснуць калідоры
Два мячы жалезных рук.

Ва ўсім свеце паднябесным
Толькі аднаму яму
Адчыняць
шынель жалезны
Вострай брамай у турму.

Самы грозны і відушчы,
Хоць і ён заплакаць мог,
Нешта ў ім было ад пушчы
І душы яе самой.

З той мясціначкі
залеснай,
Маладой на ўсе гады,
А глядзі, які жалезны
З ног да самай барады.

І цяклі, відаць, начамі
У жалезны сон яго,
І Уса
з кустоў вусамі,
І начлежнікаў агонь,

Пераспелых ягад вочы,
Луг, спакованы ў стагі.
І пад ножкаю дзявочай
Лёгкай кладкі перагіб.

Лепей кладкі перагібы,
Чым улады перагіб.
Але ўсё забыта нібы,
Тут другія пірагі.

Пад крывавыя скляпенні
Вёў турэмны калідор.
Нават мёртвых на калені
Здольны ставіць рэўтэрор.

Хоць жалезны бой у сэрца,
А спыняецца й яно
Перад страшным зіркам смерці
І забытаю віной.

У цішы ля Налібокаў
Я зарамлю той партрэт.
Не глядзі жалезным вокам
На мяне, суровы «ФЭД».

## ЗАГАДКА МАЛОЧНАЙ РАКІ

Ты не ўспомніш, лысуня, цяперака.
Я напомню табе, пачакай.
Даганялі з табой мы Амерыку
Па надоях твайго малака.
І прыпеўкі гучалі закутнія
Пра стараннейка наша пакутнае:
«Мы Амерыку дагонім
Па надоях малака,
А па мясу не дагонім —
Дайце іншага быка...»
У крыклівуца свая філасофія:
Там дзе хочаш бяры, а давай.
А лугі ж навакол перасохлыя,
Іх цураецца нават трава.
Мы сяклі табе потым галіначкі —
Дрэвы голыя скрозь ля дарог.
Пуста-ціха было у адрыначцы,
Занямог наш айчынны мурог.
У крыклівуца свая філасофія,
А ў каровы свая сілас-офія:
Будзе сілас, дык дам малака.
Дзе ж малочная наша рака?
Мо, і праўда, яна не з саска.
Мо таму й нашы лічбы высокія,
Што даілі мы іх з языка?
Аблятае буслінае перыйка,
І на плоце павесіўся збан.
А яе не відаць, Амерыкі,
Праз малочны густы туман.

## ШУКАЙЛЫ

Насіліся над лёсам каршукамі,
Хітроўна падпяваючы мане,
Неверагоднай годнасці шукайлы,
Шукайлы кампрамату на мяне.

Адкуль ура-напорыстасць такая,
Адкажа хто, наіўнаму, табе?
Усё-усё на свеце адшукаюць:
Іголку ў стозе,
Грушу — на вярбе.

Яны шукалі праматy ў падкове
І ў мурагу зялёным — сівізну,
Шукалі ў кожнай літарцы і слове
Маю замаскаваную віну.

Штыкамі сон абмацваючы ў сене —
Быў і на сена чыйсьці там данос —
Яны шукалі ворагаў насенне,
І хоць заўжды знаходзілі хвіндос,

Ды штосьці там «хавалася» ўсё роўна,
Ці між радкоў, ці ў цьмянасці радка.
Яны маглі б і ў бульбе нашай роднай
Нацдэмаўскі той прысмак адшукаць.

Яны хлусню жавалі, віжавалі,
Над ціхасцю айчыннай дужавалі,
І літасці ад іх я не чакаў.
І праўду нашу так яны схавалі,
Што і са свечкай цяжка адшукаць.

## СЁМАЕ НЕБА

На сёмым небе мы былі.
На тым стажку духмяным
Не адчувалася зямлі
І маладога зману.

І ў зрэнках бачыўся тваіх,
У дзікавата-ясных,
Вялікі страх,
што на дваіх
Дзяліць было не страшна.

І гэты боль і гарачынь
Усемагутнай хвалі
На маладым стажка плячы
Паўсвету калыхалі.

Вясельна воблакі плылі,
Як шэсце над лугамі.
На сёмым небе мы былі,
І шэсць было пад намі.

Ды грымнуў прызямлення час
У гэтым свеце стомкім.
Нябёс, як бачыш, сем у нас,
Зямля ж адна ў нас толькі.

## МАЛІТВА 1863 ГОДА

Адзічэла душа
На сцяжынах звярыных,
Лета поіць зямлю не дажджамі —
Крывёй.
Часам сена прысніцца
У роднай адрыне,
Але сёння віжак
Пільна сочыць за ёй.

З грыў туман атрасаюць
Маскальскія коні,
Жонка вокны жагнае
І туліць дзіця да грудзей.
Прама ў рукі бядзе
Не спяшайся. Антоні,
Сам дамоў не ідзі,
Хай лепш цень твой ідзе.

Ты і сам тут як цень,
У гушчэрніку сонным.
Гнуць цябе не твае,
А чужыя гады.
Абнасілася світка
Старога фасону,
Самакруткай падпалена
Шчэць барады.

Быў найлепшым касцом,
Стаўся касіянерам,
Быў ласкавым, ды знік
Васільковы пагляд.

Больш, чым сілы ў руках,
У грудзях тваіх веры.
Сцежкі клічуць з засад,
Сцеражыся засад.
Але сёння як глянуў
У Кромань на ранні,
Твар угледзеў чужы.
Ён траіўся і плыў,
А з прадоння званы
Гучна грымнулі раптам,
Аж хіснулася сонца,
І гул растрывожыў ствалы.

З той здавённай легенды
Старыя званіцы,
А яны зазванілі
Пад сэрцам знячэў.
І сказаў ён братам:
— Трэба Богу маліцца;
Покуль пацеры мы
Не забылі яшчэ!

Цэлы дзень екаталі
У пушчы сякеры,
Густа пахла смала,
Як старое віно.
Яшчэ сілы было,
Але больш было веры.
А пад вечар капліца ўзрасла
Пад сасной.

Заўтра, можа, другія
Ім грымнуць званіцы —
Вунь якая балючая
Ў небе зара.
Заўтра можа крывёй
Гэты свет запаліцца,

Джалы косаў даўно
Нецярпеннем гараць.

Заўтра іншыя будуць
І словы і гукі,
Будзе смерць сярод поля
І з болем вярста,
А сягоння тутэйшы
Штукар блізарукі
Выразае з бярозы
Распяцце Хрыста.

Бледна поўня ў акенцы
Гарыць жырандоляй,
І алтар асвятляюць
З прыгоршч светлячкі.
Вечар цемраю
Кроны сціскае паволі.
«Што ж, за долю
Памолімся, дзецюкі!»

І укленчылі ўсе:
І Адась з-пад Смаргоні,
З Рубяжэвічаў Яська
І свіслацкі Чэсь,
І з-пад Стоўбцаў Алесь,
І з Кляцішча Антоні,
І яшчэ, і яшчэ...

Нават дрэвы ўзялі
Дзеразовы ружанец,
Ён між пальцаў карэнняў
Трывожна пабег.
Калі дрэва ўстае за табой,
Як паўстанец,
Значыць, вораг ніякі
Не страшны табе.

«Божа праведны і ўсемагутны,
Ты пачуй гэты голас наш
Многапакутны.
Дай нам сілы сваёй,
Дай нам моцы айчыннай,
І мы дзверы з цямніцы чужацкай
У святліцу адчынім,
Бо пад небам тваім
Гэтак мала святога.
Спім не ў сценах сваіх мы —
У звярыных бярлогах.
Наш загон атаптаны,
Топчуць нашую мову.
Божа высокі!
Ты пачуй нашы словы!
Памажы нам у час гэты жудасны самы!

Аман!

Калі потым у Кромань
Зноў глянуў Антоні,
Ён убачыў касцёл
І званіцу саму.
Бог у белай кашулі
Узыходзіў з прадоння
І ступаў па аблоках
Насустрач яму.

Заціхала малітва,
Усчыналася бітва.

А пачуў усё Бог той
У белай кашулі,
Нават мы праз стагоддзе
У калысках пачулі.

* * *

Завеснявелі на твары радзімкі
Светла растала смуга ля вачэй.
Капае час мой
З адталай ільдзінкі,
Капае, капае,
Значыць, цячэ.

Значыць, і я нешта трачу і трачу.
Горшае, лепшае —
Як адгадаць?
Той ручаёк, што танцуе і плача,—
Толькі вада.

Цёпла радзімкам тваім маладзіцца,
Мала сплылося вады.
Можна на ўсё ў гэтым свеце згадзіцца,
Апроч бяды.

У веснавым гэтым гулкім люстэрку
Твару твайго не відаць.
Капае, капае кропля
Нясцерпка,
Часу шкада.

Але душы яшчэ прагнецца, прагнецца
Волі і нават стыхіі самой.
Вось і вядзе мяне гэтая раніца,
Вось і іду паслухмяна за ёй.

## ПАСТУШЫНЫ НАПЕЎ

Я — пастух!
Пуга цягнецца змяёю,
І пад пугаю маёю
Скача луг.

Родны смак травы ласуннай —
Свята для маёй Лысуні.
Даўжынёй яе хваста
Цягнецца мая вярста.

Па рагах маіх кароў
Сонца коціцца ўрачыста,
І відаць грахі ўсе чыста
Па рагах маіх кароў —
Імператараў, цароў.

Па адным хаджу ў крузе
Аж да самае зімы.
Я пры пужцы,
Я пры лузе,
А яны ўсе пры двары —
Імператары, цары.

Луг — як рай для пастуха,
Неба роднае — страха.

Чалавек я не прытворны,
Берагу кароў правы.
Я ніякі не прыдворны,
Я — кароль прылугавы!

Зак. 408

* * *

Скакаў сябе вышэй ён, апантаны.
Яна за ім кружляла паслухмяна.
Ён быў Агонь.
Яна была Бяроста.
А перад ім выкручвацца не проста.

* * *

Гасне дзень неўпрыкмет
У блакіце бязмежным.
Хваля змыла твой след
На пяску прыбярэжным.

А нядаўна яшчэ
Я чытаў па тым следзе
Вершык ранні твайго,
І начы,
          і вачэй,
Злёгку сплаканых недзе.

Маладзіўся твой дзень,
Залаціўся твой дзень,
Бег туды лёгкі след,
Дзе кусты веславалі.
Я ж самотна глядзеў,
Як пяшчотна яго
Выцалоўвала хваля.

Жалю човен ганю
Удалечыню,
За абрыс небакраю,
Дзе цябе я сасню,
Дзе палоскай агню
Хваля новаму дню
Хадавік рассцілае.

## АЛЬТАНКА

Мне гэты парк запомніўся альтанкай,
Якую хмель вясёла так абшыў,
Дзе столькі светлых выпіта світанкаў,
Што й сёння так світальна на душы.

Там плакаў альт маёвым надвячоркам,
Ад рэўнасці аж плакаў гімназіст.
Там паляваў на маладую зорку
Ад ветру ап'янелы ранні ліст.

І смешна так цягнуліся галіны
Старой чырваналістае кляніны,
Нібы фальбонкі моднае сукенкі
Той, некалі пыхоўнае паненкі.
Там ланцужок гарэзны ручаёвы
У каранях сабе вышукваў сховы,
А мне другі свяціў, выпальваў вочы,
На шыі лебядзінае, дзявочай.
Я помню след на снезе ланцужковы,
Званочак смеху коціцца са школы,
І лёгкі халадок шчакі пунцовай,
І злёгку падмарожаныя словы.

Выходзячы дзвярыма на алею,
Выходзячы да месяца акном,
Праз лістапада залатую вею
Ты сёння мне прымроілася зноў.

Я здрыгануўся.
Не, ты ўжо не тая.
Па стрэшку дзікі шал цябе абшыў.

Няма дзвярэй, у вокнах не світае,
А значыць, не світае і ў душы.

Там — коркі і акуркі, чыйсьці сорам
І музыка сіпатая, свая.
Там гімназістку гвалцілі учора,
А сёння гвалцяць песню салаўя.

Пякельны чад, няма тут болей раю,
Здаецца, ўсё праклён мне даўні шле.
Старая, што бутэлькі сабірае,
Нібыта танчыць, босая, па шкле.

Гуляе лісце з сонейкам у жмуркі,
І доўга мне чакаць да той пары,
Пакуль ад тых акуркаў і прыдуркаў
Не падмятуць цябе мае вятры.

* * *

Асвежыць твой ранак рака
За роднай пушчанскаю вёскай.
А светлы ручэй ручніка
Надасць яму міласці боскай.

Закручаны шлях у ракі,
Што блудная плынь выrабляе!
Ад той і да гэтай лукі
Ты ў петлі такія трапляеш.

Ніводнае кладкі нідзе.
Жывуць берагі міжусобна.
Чаго ж ты за рэчкай ідзеш?
Бо шлях твой на рэчку падобны.

## ДУША ТВАЯ І БОЛЬ ЯЕ

Хто ты ўсё ж?
Сябе спытай,
Сам сабе вялікі следчы.
І засведчы, што — ратай,
Ды і сейбіт што — засведчы.

Хоць натугай мураша
Верш твой выхаджаны лоўка,
Ды абкрадзена душа,
Як калгасная кладоўка.

І гандляр з яе валок,
І застольны вымагатар,
А яна, як матылёк,
Трапятала вінавата.

Кожны з пугаўём сваім,
Кожны са сваім аршынам.
І не грэшная зусім,
Хоць над ёю суд вяршылі.

Хоць не спаў ты па начах,
Ды не плакаўся ў адчаі.
Калі храм яшчэ маўчаў,
У душы імша гучала.

Чым жа сеяць мусіш ты?
Ну, вядома, што душою,—
Зерне праўды й праваты,
За гаротніка й героя.

* * *

На следзе крынічкі былой
Так сэрца тужліва заные.
Жалобай тутэйшых балот
Чарнеюць капцы тарфяныя.

І бусел мой белы ўчарнеў,
І хоць у лясы не падаўся,
Ён нашай сасмяглай вясне
За птаства й людзей спавядаўся.

Балота,
І Бусел,
І Бог —
Тры словы балюча блукалі.
Нам нехта чацвёрты памог
Ступіць у нявер'я блакаду.

Ты плач.
Гэта чорная кроў
З балот нашых хутка не схлыне.
Дык дзе ж гэта
Збаўны той крок?
А ён толькі сніцца Айчыне.

## ЗГАДКА
## ПРА «КАРАЛЕВУ ПАЛЁЎ»

Я слыў нядрэнным раённым
газетчыкам,
Матацыкл рэдакцыйны
шалёна ганяў.
І бурчэў сакратар Шырко часамі:
— Я не даверыў табе б і каня.
Але я быў байцом,
Я змагаўся за кукурузу,
А яна расці пачынала з Крамля,
Хоць яе ў штыкі прымала
Наша многапакутная
і аржаная
Зямля.
А я высяваў яе шчодра з блакнота,
Сваім аб'ектывам ёй росту даваў.
Не аб'ектыўным быў я газетчыкам,
Ды быў і змаганцам,
Бо я ваяваў.
І мною не гэны Шырко камандаваў —
Мною камандаваў сам Хрушчоў.
У вялікае бітве за кукурузу
Столькі выспела таўкачоў...
Але Бог так і не даў ім
Васковай спеласці,
Той найвасковейшай жаўцізны.
У сваёй знямеласці і нясмеласці
Былі зялёнай масай яны.
Усё цярпела зялёная маса
І ўсе цярпелі, але да часу.
Матацыкл той даўно ўжо з'ела іржа,
Прычакалі каровы свайго нажа.

Столькі лухты я ўсялякай наплёў
Пра «каралеву» не нашых палёў,
Бо загад меў на гэта не чыйсь там —
Крамлёў.
А яе яшчэ й сёння сеюць у нас,
Хоць новыя бітвы прыдумаў час.

# ЦЕНЬ ЯЗЭПА ЛЁСІКА

Чым далей у лес,
                    тым больш дроў,
Чым далей ў лёс,
                    тым больш драм.
Ліецца чыясьці нявінная кроў,
І друзачкі сонца сыплюцца з рам.

Я лес свой даўно ўжо здзеку аддаў,
О Божа, не дай мне і лёс свой аддаць.
Едзе-едзе мяне бадаць
Па новым следзе старая бяда,
На новых колах старая буда.
І цень мой,
Што выйшаў з гэтых радкоў,
Што бег імжаною пушчанскай сцягой,
Трымае порткі адной рукой
І моўчкі жагнае сябе другой.
Можа, на кратах яго разапнуць,
Ці будзе на доле распяцце яму.
Ці будзе на доле рапяцце яму,
А лепшае долі мне не дадуць,
Пакуль я сам яе не вазьму.

## ЗМЕСТ

**Камейша К.**

К18 Лінія лёсу: Вершы. — Мн.: Маст. літ., 1996.— 126 с.

ISBN 985-02-0316-1.

Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова Казімір Камейша ў кнізе «Лінія лёсу» працягвае размову, пачатую ў папярэдніх зборніках. Аўтар не абыходзіць вострых вуглоў нашага няпростага жыцця, разам з тым ён засяроджвае ўвагу чытача на спрадвечных каштоўнасцях чалавека: любові, дабрыні, высакароднасці. Самыя розныя пласты нашага быцця закранае паэт у сваёй новай кнізе. А глянуць на ўсё існае ён імкнецца сваім, уласцівым толькі яму, часцей за ўсё нечаканым зрокам.

Вельмі чуйны К. Камейша і да айчыннай гісторыі, як блізкай, так і далёкай.

**К** **8820600000— 064** / **М302(03)—96** **43—96** **ББК 84(4Бен)6**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Камейша Казімір Вікенцьевіч

**ЛІНІЯ ЛЁСУ**

Вершы

Рэдактар К. Я. Жук. Мастак Г. Г. Малышаў. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар К. А. Крукоўская.

Здадзена ў набор 15.01.96. Падп. да друку 01.11.96. Фармат $70\times90^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 4,68. Ум. фарб.-адб. 4,83. Ул.-выд. арк. 3,95. Тыраж 800 экз. Зак. 408.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3. 200600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога». 222310, г. Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.